Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск 30 мая- 5 чэрвеня 1997 года

# Рэгіянальная газета

№22 (110)

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ




## РАСКЛАД РУХУ прыгарадных цягнікоў па ст. Маладзечна з 1.06.97 г.

### (звяртайце ўвагу на дні курсіравання)

| Мал. Адпр. | Мінск Прыб. | (Без прып.) | Мінск Адпр. | Маладз. Прыб. |
|---|---|---|---|---|
| 4-32 | 6-17 штодз. | | 4-18 | 6-10 штодз. |
| 5-30 | 7-17 штодз. | | 5-14 | 7-09 штодз. |
| 6-03 | 7-45 штодз. | Сел, Крын., Ласі | 6-35 | 8-08 штодз. |
| 6-30 | 8-19 штодз. | | 6-48 | 8-22 штодз. |
| 7-26 | 9-04 суб. | Рам.,Ан.,Хм.,Зял., М.М. | 7-38 | 9-19 суб. |
| 7-29 | 9-17 раб., ндз. | | 7-37 | 9-31 раб., ндз. |
| 8-23 | 9-46 суб. | Сел., Крын., Ласі, Баяры, | 8-21 | 10-01 суб. |
| | Рам., Прал., Вяз., Ан., Хм., Зял. | | 8-15 | 10-03 раб., ндз. |
| | Крыж., М.М., Леб., Мас., Рад. | | 9-10 | 10-45 суб. |
| 8-24 | 10-12 раб.,ндз | | 9-00 | 10-47 раб., ндз. |
| 8-47 | 10-27 суб. | Рам., Прал., Ан., Хм. | 9-48 | 11-20 суб. |
| 8-59 | 10-47 раб., ндз. | | 9-42 | 11-21 раб., ндз. |
| 9-48 | 11-35 суб. | | 9-54 | 11-41 раб., ндз. |
| 9-55 | 11-44 раб.,ндз. | М.М. | 10-37 | 12-13 суб. |
| 10-37 | 12-13 суб. | Рам., Вяз., Ан., Хм., | 11-04 | 12-51 раб., ндз. |
| | Зял., Крыж., М.М. | | 11-13 | 12-51 суб. |
| 10-41 | 12-29 раб., ндз. | | 12-00 | 13-47 ндз. |
| 11-42 | 13-22 раб.,суб. | Сел., Ан., Хм., М.М. | 12-00 | 13-49 раб., суб. |
| 11-42 | 13-30 ндз. | | 12-56 | 14-42 раб., суб. |
| 12-36 | 14-19 ндз. | Сел., Хм., Зял., М.М. | 12-55 | 14-42 ндз. |
| 12-55 | 14-42 раб., суб. | | 13-39 | 15-26 раб., суб. |
| 13-21 | 15-09 ндз. | | 13-54 | 15-32 ндз. |
| 13-40 | 15-30 раб., суб. | | 14-55 | 16-39 ндз. |
| 14-13 | 15-48 ндз. | Рам., Вяз., Ан., Хм., | 15-00 | 16-40 раб., птн., суб. |
| | Зял., Крыж., М.М., Леб. | | 15-42 | 17-21 ндз. |
| 14-34 | 16-23 раб., суб. | | 15-37 | 17-24 раб., суб. |
| 15-00 | 16-38 ндз. | Рам., Ан., Хм., Зял., | 16-15 | 17-59 ндз. |
| | Крыж., М.М. | | 16-15 | 18-04 раб., суб. |
| 15-29 | 17-06 ндз. | Сел., Вяз., Ан., | 16-40 | 18-14 ндз. |
| | Хм., Крыж., М.М. | | 16-54 | 18-52 раб., суб. |
| 15-31 | 17-19 раб., суб. | | 17-35 | 19-08 ндз. |
| 16-02 | 17-33 птн., суб. | Сел., Крын., Ласі, Рам., | 17-41 | 19-29 раб., суб. |
| | Вяз., Ан., Хм., Зял., Крыж., М.М. | | 18-16 | 19-52 ндз. |
| 16-25 | 18-13 раб.,суб. | | 18-29 | 20-15 раб., суб. |
| 16-30 | 18-06 ндз. | Прал., Вяз., Ан., | 19-01 | 20-37 ндз. |
| | Хм., Крыж., М.М., Леб. | | 19-14 | 21-00 раб., суб. |
| 17-03ндз. | 18-38 | | 19-37 | 21-13 ндз. |
| 17-20 | 18-59 раб., суб. | Сел., Рам., Ан., Хм., М.М. | 20-24 | 22-08/16 штодз. |
| 17-50 | 19-35 раб., суб. | | 21-14 | 23-00 штодз. |
| 17-53 | 19-33 ндз. | Рам., Вяз., Хм., Зял. | 22-15 | 23-59 штодз. |
| 18-27 | 20-14 раб.,суб. | | | |
| 18-36 | 20-13 ндз. | Рам., Вяз., Ан., Хм., Крыж., М.М. | | |
| 19-03 | 20-39 ндз. | Ан., Хм., Зял., Крыж., М.М., Леб. | | |
| 19-37 | 21-24 ндз. | М.М., Леб. | | |
| 19-48 | 21-22 раб., суб. | Сел., Татар., Прал., Хм., М.М., Леб. | | |
| 20-24 | 22-05 раб., суб. | Ан., Леб. | | |
| 20-29 | 22-14 ндз. | М.М., Леб. | | |
| 21-11 | 22-57 раб., суб. | Леб. | | |
| 21-14 | 22-57 ндз. | М.М., Леб. | | |
| 22-30 | 0-07 штодз. | Сел., Прал., М.М., Леб. | | |

## Кіруйце ў дарогу разам з намі!

| Маладзечна -Гудагай | | Гудагай - Маладзечна | |
|---|---|---|---|
| 8-35 | 10-20 штодз. | 5-20 | 7-01 штодз. |
| 13-21 | 15-09 вых. | 10-38 | 12-17 штодз. |
| 15-40 | 17-21 штодз. | 15-32 | 17-16 вых. |
| 17-49 | 19-34 штодз. | 17-39 | 19-20 штодз. |
| 20-35 | 22-21 штодз. | 20-09 | 21-50 штодз. |
| **Маладз. - Крулеўшчына** | | **Крулеўшчына - Маладз.** | |
| 7-18 | 9-38 вых. | 4-35 | 6-55 штодз. |
| 8-32 Пол. | 13-13 штодз. | 10-00 | 12-20 вых. |
| 12-40 | 14-59 вых. | 15-21 | 17-39 вых. |
| 20-44 | 23-15 штодз. | 17-14 | 19-40 шт.,Пол. |
| **Маладзечна - Ліда** | | **Ліда - Маладзечна** | |
| 7-32 Бгд. | 9-04 вых. | 3-50 | 7-10 штодз. |
| 8-44 | 11-53 штодз. | 9-26 Бгд. | 11-02 вых. |
| 12-33 | 15-42 вых. | 9-06 | 12-27 штодз. |
| 14-29 | 16-37 сер., птн. | 12-06 | 15-20 вых. |
| 16-17Юр. | 18-23 ндз., суб. | 15-59 | 19-17 штодз. |
| 17-58 | 21-26 штодз. | 18-44 Юр. | 20-58 сер.,птн., сб., ндз. |
| 20-30 | 23-43 штодз. | | |




**У раскладзе магчымыя змяненні.**
**Даведачныя тэлефоны вакзала (01773) 70848, 42423**

## Яшчэ адна "біржа"?

*МАЛАДЗЕЧНА. Па дадзеных рэгіянальнага цэнтра занятасці, беспрацоўная моладзь ад 18 да 25 гадоў складае пераважную большасць сярод усіх узроставых катэгорый. Колькасць беспрацоўных з сярэдняй адукацыяй перасягнула дзвюхтысячны рубеж. А вось з вышэйшай адукацыяй— каля 200. Стала характэрным для горада і беспрацоўе сярод выпускнікоў ПТВ і палітэхнікума.*

Такая статыстыка патрабуе новых рашэнняў. Таму і ўзнікла ідэя стварыць маладзёжную біржу занятасці.

У рамках "Праграмы занятасці" праводзіцца работа па прафесійнай арыентацыі моладзі, яе навучанні і перанавучанні. Заключаны доўгатэрміновыя дагаворы на навучанне са "Школай прадпрымальніцтва", ВКК аграпрамкамбіната, аўтавучкамбіната і ВКК "Надзея".

*Наталля РАБЧАНКА.*

## Патрабуюцца на работу

*МАЛАДЗЕЧНА.* Інжынер-канструктар (3), інжынер-будаўнік (3), прараб (5), муляр (19), газаэлектразваршчык (5), электрык (7). **Вялікі Гасцінец, 147.**

*СМАРГОНЬ.* Маляр-тынкоўшчык (8), муляр (10), сталяр (5), цясляр (5), электрык (2), аператар станкоў з ЧПУ, наладчык станкоў з ЧПУ, інжынер-электронік (1), галоўны бухгалтар (1), фармацэўт (1), юрысконсульт (1), кандытар (2), дахаўшчык (3), токар-універсал (2). **Тэл. для даведак 32130.**

*ВІЛЕЙКА.* Токар (20), слесар-фрэзероўшчык (20), інжынер-механік (1), бульдазерыст (5), буфетчыца (2), цырульнік (2), сталяр (4), качагар (2), прадавец (4), газаэлектразваршчык (3), муляр (5), токар (3), featureнарабочы (15). **Тэл. для даведак 54113.**



## Адным абзацам



*Пастаянны вядучы гэтай рубрыкі Алесь "забаставаў": то не было вартых увагі чытача падзей, то яшчэ што. Але ў сераду ў яго быў поўны абзац, бо кожны жадаючы мог павіншаваць нашага аўтара з днём нараджэння. "РГ" далучаецца да віншаванняў. Рубрыка, як чакаецца, набудзе "другое дыхане". Летняга цяпла, Аляксандр!*



## Навіны

### Небяспечныя кветкі на клумбах

*МАЛАДЗЕЧНА. У цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў адбыўся конкурс прававых ведаў сярод дзевяцікласнікаў горада.*

Карысна, напрыклад, ведаць, што ў выпадку атрымання траўмы падчас гульні ў футбол адсутнічае састаў злачынства. Гэта лічыцца толькі няшчасным выпадкам. А вось калі камусьці задумаецца нарваць кветак з гарадской клумбы, таму не пазбегнуць штрафу за дробнае хуліганства.

Шмат цікавых пытанняў было прапанавана ўдзельнікам конкурса, якія паказалі нядрэнныя веды ў галіне права. Першае месца занялі прадстаўнікі СШ №7. А вось паміж вучнямі СШ №6 і №9, якія набралі аднолькавую колькасць балаў, прайшоў бліц-турнір, які расставіў каманды ў названым парадку.

*Наталля РАБЧАНКА.*

### Агуркі на беразе возера

*МЯДЗЕЛ. Другі год запар калгас імя Калініна наладжвае цяплічную гаспадарку. Летась першыя спробы далі 55 мільёнаў рублёў прыбытку ад продажу агуркоў.*

У сярэдзіне чэрвеня першая партыя "раднічкоў" павінна трапіць у гандаль. Прычым разыходзіцца будзе, у асноўным, па аздараўленчых летніках, дамах адпачынку.

*Альберт КУМІШЧА.*

### Танчылі да ночы

*ВІЛЕЙКА. Тут прайшоў абласны фестываль харэаграфічных калектываў "Хрустальны абцасік".*

Мясцовая школа мастацтваў атрымала дыплом III ступені (сярод 12 калектываў). А перамагла Барысаўская харэаграфічная школа. Дзятва танчыла не толькі перад гледачамі і журы - выкладчыкамі Мінскага вучылішча мастацтваў,- але і на дыскатэцы, арганізаванай пасля афіцыйнай праграмы.

*Аддзел інфармацыі.*

### Шведы чакаюць

*БЕРАЗІНСКАЕ. Турнір па міні-футболе стартуе тут праз два тыдні і можна паведаміць чытачу пра некаторыя яго "тайны".*

Усе ўдзельнікі футбольных баталій атрымаюць білеты ў Швецыю. Не бяды, што ўсяго на 2 гадзіны і на мінскі стадыён "Дынама",- на матч з нашай зборнай шведы мусяць настройвацца ўсур'ёз.

Лепшым гульцам арганізатары ўручаць свае прызы. "РГ" вызначыць лепшага абаронцу. А каманда-пераможца будзе да канца года бясплатна атрымліваць нашу газету.

Гледачы势 стануць сведкамі пазапланавага "зарубона" - зборная ветэранаў футбола з Беразінскага, якая рыхтавалася ўвесь год, сыдзецца на полі са зборнай арганізатараў, узмоцненай некалькімі кіраўнічымі работнікамі Маладзечаншчыны. Прыз варты ўвагі - піўзавод выстаўляе для пераможцы дастатковую колькасць сваёй прадукцыі.

*Язэп СЕМЯНОВІЧ.*

### "Не слышно шума городского..."

*СМАРГОНЬ. Амаль незаўважаным для шырокай грамадскасці аказаўся аднадзённы візіт у раён Мікалая Яроменкі. Можа, таму, што ён прыехаў не як вядомы акцёр, народны артыст СССР, а цяпер яшчэ і палітык, а як прыватная асоба.*

Трэба думаць, што кароткі адпачынак Яроменкустарэйшаму пайшоў на карысць: напярэдадні, у суботу, ён быў заняты ў адной з галоўных роляў у новым спектаклі "купалаўцаў" па п'есе Р. Харвуда "Касцюмер". І, як сведчаць відавочцы, выклаўся поўнасцю. А што можа лепш узнавіць творчыя сілы, як не адпачынак на прыродзе, у цесным коле сяброў, удалечыні ад сталічнага тлуму.

*Аддзел інфармацыі.*

Мы

# Мы спынілі ядзерныя выбухі

*СМАРГОНЬ. Сказаць, што Аляксандры Тарчынскай многа гадоў, не паварочваецца язык. Пажылая жанчына (самы дакладны выраз) у 1941-м хадзіла ў сёмы клас. Яе вялікая сям'я— у бацькоў 8 дзяцей— жыла ў Паўладары, Казахстан.*

— Дэталі для снарадаў,— успамінае жанчына,— рабілі спачатку бясплатна. Потым заробкі, як усе, паралічвалі на "танк", "самалёт." Пазней у Ташкенцкім універсітэце больш прымалі эшэлоны з параненымі, чым вучыліся.

Настаўнік— чыноўнік— выкладчык. Але акрамя асноўнай работы была і грамадская пасада старшыні "Педагогі за мір і ўзаемаразуменне". "Міратворцы" (каля 4 тысяч) аздараўлялі дзяцей (недалёка ішлі ядзерныя выпрабаванні), накіроўвалі групы інвалідаў для артапедыі і далейшай рэабілітацыі, праводзілі ўрокі "міру". Педагогі актыўна ўвайшлі ў рух "Сяміпалацінск— Невада". На той час па вуліцах бегалі "лысыя" сабакі, людзі ад радыяцыі пакутвалі на самыя розныя захворванні. Пад ціскам грамадскасці сяміпалацінскі палігон закрылі. Штогод Тарчынская пералічвала ў Савецкі фонд міру сваю месячную зарплату. А пасля землятрусу прапаноўвала на нейкі час сваю кватэру пацярпелым. У біяграфіі— ўдстартаваў з Будапешта ў 1985 годзе, міратворчая дзейнасць у Грузіі падчас вядомых падзей у красавіку 1989. Сярод узнагарод самыя дарагія сэрцу 4 медалі Савецкага фонду міру. А сярэбраную ў 1989 годзе ўручаў сам старшыня фонду Анатоль Карпаў.

— Мы цябе заўсёды чакалі. Цяпер ты нас чакаеш,— аднойчы сказала дачка маці.

Хутка два гады, як Аляксандра Данілаўна пераехала з Паўладара да дачкі ў Смаргонь.

— Я шчаслівы чалавек,— гаворыць пенсіянерка.— Займалася тым, што было мне даспадобы.

Вучыла, змагалася... А яшчэ для душы наладзіла на мі касманаўтамі, вучонымі. Унучка Цыялкоўскага напісала ёй: "нястомнай прапагандыстцы касмічных спраў"— А. Д. была членам федэрацыі касманаўтыкі СССР. А ўнук гэтага вучонага напісаў: "нястомленай на зямлі". Тарчынскай хапае пашаны. Нават на яе юбілей тэлебачанне Казахстана ёй прысвяціла песню "Імя тваё, настаўнік". У Смаргоні Аляксандра Данілаўна хоча ўзняць на якасны ўзровень работу фонду міру, арганізоўваць вольны час адзінокіх састарэлых людзей.

— Я, быццам старое дрэва, якое перанеслі ў новую глебу.

Упэўнены, што "дрэва" зазелянее і дасць свае плады на шчодрай беларускай зямлі.

***Васіль САВІЦКІ.***

# Пад нож?

***МАЛАДЗЕЧНА. На чарговай сесіі гарсавета з дакладам аб стане і мерах па ўзмацненні барацьбы са злачыннасцю выступіў намеснік начальніка ГРАУС П. Багдановіч.***

Ён засведчыў, што нягледзячы на рост выпадкаў вулічнага бандытызму, кватэрных краж і п'янства на рабочых месцах за 4 месяцы (асабліва ў студзені-лютым), у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года ўзровень злачыннасці знізіўся больш як на 7%. Асаблівай крымінагеннасцю вызначаюцца кругласутачныя віна-гарэлачныя пункты, ля якіх увечары і ўначы час адбываецца ільвіная доля супрацьпраўных дзеянняў. Кіраўніцтвам горада вырашана прыпыніць гэтую кругласутачную работу. З боку дэпутатаў прагучалі і папрокі ў адрас міліцыі. У прыватнасці, уздымаліся пытанні аб крымінальных структурах суседніх краін, якія нібы кантралююць нашы харчовы і рэчыўны рынкі, а таксама аб нездавальняючай дзейнасці ДАІ. Ці дапамогуць ім у гэтым нанова створаныя пры прадпрыемствах добраахвотныя дружыны?

З інфармацыяй аб рабоце падатковай інспекцыі выступіў яе кіраўнік Антон Савіцкі, які адзначыў цяжкае становішча з выплатай падаткаў у гарадскі бюджэт. Запазычанасць падаткаплацельшчыкаў на 1 мая склала каля 46 млрд. руб. Асабліва тут вызначыліся "Спадарожнік", "Электрамодуль", ЗПМ, станказавод. Шмат махінацый назіраецца з боку камерцыйных структур, асабліва стратных, многія з якіх у чэрвені месяцы мэр горада мяркуе "пусціць пад нож".

Аб выніках выканання бюджэту за I квартал выступіла начальнік гарфа Паліна Вашкевіч. З яе даклада стала вядома, што бюджэт (у асноўным дзякуючы прадпрыемствам-"донарам" ЗЛМК, "Маладзечнамэбля" і інш.) выкананы на 107%. Праўда, па меркаванні дэпутатаў, калі ўсё ж лічыць гэтыя дадзеныя па доларавым эквіваленце, то пра выкананне бюджэту не можа ісці ніякай гаворкі. Ішла размова на сесіі аб хранічных неплацяжах за кватэру - доўг дасягнуў больш за 4 млрд. рублёў (а што будзе ў ліпені, калі плата ўзрасце ў 2 разы!?). Менавіта з гэтай нагоды, па меркаванні кіраўніцтва горада і дэпутатаў, будуць складзены спісы ўсіх кватэраздымшчыкаў і вылічвацца няўстойкі па месцы іхняй працы.

Што тычыцца падачы гарачай вады, то, як паведаміў кіраўнік электрасетак Сяргей Сарычаў, адпаведна з загадам "зверху", яна можа з'явіцца ў кранах пасля таго, як горад пагасіць сваю шматмільярдную запазычанасць за электраэнергію.

***Алесь ЦАДКО.***

31 мая— Сусветны дзень без тытуню

# Генеральны дырэктар Сусветнай арганізацыі аховы здароўя доктар Накаджыма:

***"З сярэдзіны стагоддзя толькі ў развітых краінах тытунёвыя вырабы забілі больш за 60 мільёнаў чалавек. На працягу чарговых трыццаці гадоў, калі тэндэнцыя не зменіцца, штогод будуць гінуць 10 мільёнаў чалавек".***

Маладзечанскі гарадскі цэнтр здароўя правёў анкетаванне вучняў 5-11 класаў (усяго 206 чалавек) у СШ №№ 3, 4, 5, 6. Вось некаторыя дадзеныя.

Калі ў першы раз закурылі?

23,3% (48 чал.)— у 14-16 гадоў;

17,9% (37)— у 10-13.

Прычыну найбольшай шкоды ад курэння вызначылі 23,7% (40) ва ўзнікненні анкалагічных захворванняў;

17,9% (37) пры цяжарнасці.



Што адчулі, калі закурылі ўпершыню?

28,1% (58)-- галавакружэнне.

Як часта вы курыце?

23,3% (46)— зрэдку ў кампаніі;

0,9% (2)— 5-10 цыгарэт штодзень.

Чаму курыце?

33% (68) з цікавасці;

4,8 %(10) кураць рэгулярна.

Па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, рак лёгкіх у 90% выпадкаў узнікае ў курцоў.

***Аддзел інфармацыі.***

Падпіска-97

# Завітайце за абанементам!

**Як і абяцалі, мы афармілі бясплатную падпіску для тых чытачоў, якія былі ў першай сотні ўдзельнікаў розыгрышу тэлевізара (латарэя для падпісчыка). Шчаслівчыкі могуць забраць свае абанементы ў Маладзечне ў рэдакцыі або (вілейчане і жыхары Вілейшчыны) Вілейцы ў капіравальным цэнтры "Парус" (гасцініца "Вілія"). Не забудзьцеся захапіць з сабой пашпарт або іншае пасведчанне асобы. Тэлефоны для даведак 53841, 69667. Астатнім пераможцам, хто жыве па-за межамі Маладзечна, Маладзечанскага раёна, Вілейкі і Вілейскага раёна, падпісныя квіткі вышлем. Паўтараем спіс тых, хто атрымаў падпіску ад "РГ".**

Н. Станевіч (Вілейка), Таццяна Філіпава (Смаргонь), І. Божка (Маладзечна), Віктар Кукушкін (Вілейка), Людміла Булахава (Смаргонь), Мікалай Міцько (Маладзечна), Л. Мілеўская (Мінск), Ада Шыкавец (Мядзел), Алена Плоская (Маладзечна), Зоя Цішко (Маладзечна), Лілія Смаленская (Вілейка), Аляксандр Рацькоў (Маладзечна), Аляксандр Лазоўскі (Маладзечна), Г. Скарабагатая (Маладзечна), Я. Камароў (Вілейка), Алена Тукайла (Маладзечна), Іван Сінькоўскі (Маладзечна), Аркадзь Гайдук (Маладзечна), Т. Петрачкова (Маладзечна), А. Лапо (Смаргонь), Вера Сіняўская (Гарадзілава Маладзечанскага р-на), Іна Збрадыга (Чысць Маладзечанскага р-на), Т. Найдзіч (Смаргонь), Валянціна Мялешка (Беразінскае Маладзечанскага р-на), Аляксандр Нікіцішын (Смаргонь), Г. Ждановіч (Маладзечна), В. Татарава (Маладзечна), Любоў Занудзенка (Вілейка), В. Цярэшчанка (Вілейка), Фёдар Пшэннік (Маладзечна), Р. Шпаковіч (Смаргонь), Т. Ельяшэвіч (Гарадзілава), Галіна Сцяпанава (Смаргонь), Т. Бабіч (Альхоўка Астравецкага р-на), Вольга Роліч (Сідаравічы Мядзельскага р-на), Браніслаў Альшук (Багданаў Валожынскага р-на), Таццяна Снапок (Маладзечна), Марыя Ярмак (Альхоўка), В. Дарашэнка (Маладзечна), Аляксандр Міхнавец (Маладзечна), Лілія Адамовіч (Снежкава Вілейскага р-на), Тарэса Ахрэм (Івянец), Уладзімір Гатоўка (Більцавічы Вілейскага р-на), Н. Касяк (Маладзечна), Алена Альфер (Більцавічы), Ірына Ракопчык (Вілейка), Алена Сакалова (Маладзечна), Вікторыя Сяржан (Смаргонь), цэнтральная бібліятэка Ашмянаў, А. Трацэўская (Маладзечна), Пётр Пішчака (Смаргонь), В. Рымашэўскі (Вілейка), С. Пуцілаў (Вілейка), Алена Смолік (Крыўск Смаргонскага р-на), М. Скакоўская (Турэц-Баяры Маладзечнскага р-на), А. Герасіменка (Маладзечна), М. Лукашэвіч (Ашмянскі р-н), Т. Іванова (Маладзечна), Р. Рыпула (Вілейка), Канстанцін Якубоўскі (Маладзечна), Генадзь Шыман (Турэц-Баяры), Валерыя Верамей (Любань Вілейскага р-на), Лобан (Маладзечна), Ніна Багдановіч (Шылавічы Вілейскага р-на), Галіна Свяцкая (Вілейка), Ларыса Ляцяга (Вілейка), Т. Гучок (Вілейка), Ала Падбярэзская (Маладзечна), Андрэй Тумаш (Маладзечна), Міхаіл Чарняўскі (к. п. Нарач Мядзельскага р-на), Ул. Бяліцкі (Маладзечна), Сабіна Матэйковіч (Ашмяны), Е. Ягорава (Маладзечна), Д. Кандратовіч (Маладзчна), Алена Новік (Балашы Вілейскага р-на), А. Мястоўская (Маладзечна), С. Дзяруга (Вілейка), В. Баран (Маладзечна), Т. Церах (Вілейка), Уладзімір Лабуць (Смаргонь), прозвішча нечытальнае (Смаргонь, вул. Суворава, 46, 47), Лявон Мінкоўскі (Маладзечн), Алена Чубат (Вілейка), Віктар Буткевіч (Маладзечна), В. Пратасевіч (Маладзечна), З. Гецман (Івянец), М. Рудніцкі (Каледзіно Маладзечанскага р-на), Вольга Броўка (Любань Вілейскага р-на), Е. Мандрык (Маладзечна), Людміла Чаховіч (Вілейка), Віктар Жаўняровіч (Рэдзькавічы Вілейскага р-на), Кавалеўскія (Маладзечна), І. Валадкевіч (Маладзечна), Аляксандр Новік (Сінькі Смаргонскага р-на), Т. Пліско (Маладзечна), Н. Ляговіч (Маладзечна), С. Марцінкевіч (Краснае Маладзечанскага р-на), Уладзімір Акуліч (Вілейка), Людміла Слычко (Варняны Астравецкага р-на), Я. Шыцікаў (Смаргонь).

***Мікола ГАЙДУК.***

# Вы маеце шанц

**Ідзе падпіска на другое паўгоддзе 1997 года. Падпісная цана на наша выданне засталася без змянення:**

**на 1 месяц -- 8 тыс. руб,**

**на 3 месяцы -- 24 тыс. руб.,**

**на паўгода -- 48 тыс руб.**

**Падпісчыкаў чакаюць прыемныя сюрпрызы і неспадзяванкі. Спяшайцеся на пошту!**

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на рэгіянальную газету

63212 (індэкс выдання)

Колькасць камплектаў

На 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА на рэгіянальную газету

ПВ | месца | літар

63212 (індэкс выдання)

Кошт: падпіскі ... руб.; пераадрасоўкі ... руб.

Колькасць камплектаў

На 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

# ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАННЯ




## Понедельник, 2 июня

**БТ** **7.30** Утренний коктейль. **7.45, 17.50** Музобойма. **7.50, 17.40** Экономикст. **8.00** Резонанс. **8.45** В добрый путь! **8.53** Выпускной экзамен по белорусскому и русскому языкам. **9.00** Телебарометр. **9.10** Здоровье. **9.40** Д/ф. **10.15** Темная комната. **10.45** "Государственная граница". Х/ф. **13.00, 15.00, 18.50, 23.25** Новости. **15.15** Фр. язык. **15.45** "Приключения Скиппи". Телесериал для детей (Австралия). 1-я с. **16.15** "На добрый лад". **16.30** Гости в дом. **17.00,20.25** Музантракт. **17.10** Концертный сезон. **18.00** Футбол. "Динамо" (Минск) — "Локомотив-96" (Витебск). **19.50** Тема дня. **20.10** Политика качества. **20.20** Кто это? **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** Х/ф "Трембита". **23.35** "От Чижовки до Комаровки". Спектакль театра "Христофор".

**ОРТ** **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.50** Новости. **8.15,17.20** "Девушка по имени Судьба". **9.00** Человек и закон. **9.25** Поле чудес. **10.30** "Угадай мелодию". **14.20** М/ф. **14.45** Марафон-15. **15.05** Звездный час. **15.40** М/ф: "Похождения Чичикова. (Манилов)", "Похождения Чичикова. (Ноздрев)". **16.10** Теннис. **18.10** Час пик. **18.35** Угадай мелодию. **19.00** Программа "Мы". **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** Х/ф "Гарри и Хендерсоны". **22.50** Теннис.

**РТР** **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.15** С добрым утром! **8.05,15.25** "Клубничка". **8.35** Сам себе режиссер. **9.10,18.00** "Санта-Барбара". **14.05** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **14.45** Вместе. **15.10** "Темная" для М.Краснова. **16.15** Там-там новости. **16.25** Лукоморье. **16.50** Посмотри на себя. **17.05** Россияне. **17.20** Пульс. **19.35** Добрый вечер. **20.20** "След дождя". Х/ф. **22.35** Дежурная часть. **23.00** Частная коллекция.

**5** **11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ. **12.10,19.20** "История любви". **13.00** Срок ответа — сегодня. **13.35** Советы садоводам. **14.10** Международное обозрение. **14.45** "Барнум". Х/ф (США). 1-я с. **15.40, 20.50** ТСБ. **16.05** Дом кино. **16.45** Детское ТВ. **18.40** Большой фестиваль. **19.15** Спорт. **20.15** Пенальти. **21.05** "Барнум". **22.10** Событие. **22.25** Спорт. **22.35** У Игоря Д.

**НТВ** **5.00** Сегодня. **9.15** Утречко. **9.30** Х/ф "Новости в одиннадцать" (США). **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня. **12.00** Открытый мир. **13.20** Времечко. **15.35** Дистанция 60. **16.35** Х/ф "Голубое дерево". **17.30** Футбольный клуб. **18.00, 21.00** Сегодня. **18.40** Герой дня. **19.05** Х/ф "В поисках богов" (США). **21.45** "Крутой Уокер". **22.40** Времечко. **23.00** Сегодня. **23.20** Времечко.

**ТВ-6** **6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45** 6 новостей. **6.10, 16.35, 23.10** Диск-канал. **6.40** М/ф **7.10, 17.10, 23.00** Дорожный патруль. **7.30, 13.10** 90 х 60 х 90. **7.45, 10.25, 17.00** Аптека. **8.10** Киноподробно. **8.35** ОСП-студия. **9.20** Париж, Париж. **9.50** Спорт недели. **11.00** Обозреватель. **11.45, 17.50** "Семья Кэмпбеллов". **13.25** М/ф. **14.00** Х/ф "Песни моря". **16.05** Сериал "Школа разбитых сердец". **17.30** Курс недели. **19.05** Музыка и пресса. **20.15** Х/ф "Гранатовый браслет". **21.55** Шоу Бенни Хилла. **22.15** Катастрофы.



## Вторник, 3 июня

**БТ** **7.30** Утренний коктейль. **7.45, 19.10** "Музыкальная обойма". **7.50, 17.45** Экономикст. **8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.45** Новости. **8.10** "Болдинское притяжение". Д/ф. **8.50** М/ф. **9.15** "Так начиналась легенда". Х/ф. **10.20** Концертный сезон. **10.45** Сериал "Портреты". **11.10** "Западный Вайкики". **12.00** Четвертое измерение. **12.25** Акколада. **15.10** "Приключения Скиппи". Телесериал. **15.40** Остров вдохновения. **16.10** М/ф. **16.40** Музей частных коллекций в Витебске. **17.00** Музыкальный антракт. **17.10** Уроки Н.Новожиловой. **18.20** "Западный Вайкики". **19.15** Тема дня. **19.35** Познай себя. **20.00** Телевизионный Дом кино. **20.25** Музыкальный антракт. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** "Христофор Колумб". Х/ф. **22.45** Концертный сезон. **23.15** Третий тайм.

**ОРТ** **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.40** Новости. **8.15** "Девушка по имени Судьба". **9.00** "Мы". **9.55** Смехопанорама. **10.20** Домашняя библиотека. **10.30** "Угадай мелодию". **14.20** "Волшебные приключения Квазимодо". М/ф. **14.45** Кварьете "Веселая квампания". **14.55** Мультитроплия. **15.15** Волшебный мир, или Синема. **15.40** "Гарри—снежный человек". Комедийный сериал. **16.10** Теннис. **17.20** "Девушка по имени Судьба". **18.05** Погода. **18.10** Час пик. **18.35** "Угадай мелодию". **19.00** Тема. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** Х/ф "Два билета на дневной сеанс". **22.35** Теннис. **23.50** Пресс-экспресс.

**РТР** **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.15** С добрым утром! **8.05** "Клубничка". **8.35** Караоке по-русски. **9.10** "Санта-Барбара". **14.05** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **14.45** Образ жизни. **15.10** Ваше право. **15.25** "Клубничка". **16.15** Там-там новости. **16.25** Лукоморье. **16.50** Посмотри на себя. **17.05** Россияне. **17.20** Новое "Пятое колесо". **18.00** "Санта-Барбара". **19.35** Добрый вечер. **20.15** "Из жизни начальника уголовного розыска". Х/ф. **22.35** "Кинотавр-97". **22.50** Момент истины. **23.20** Звуковая дорожка.

**5** **11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ. **12.10** "История любви". **13.00** Срок ответа — сегодня. **13.35** Советы садоводам. **14.10** Папа, мама и я — спортивная семья. **14.45** "Барнум". 2-я с. **15.40, 20.50** Телеслужба безопасности. **16.05** "Телекомпакт". **16.45** Детское ТВ. **17.30** Телемагазин. **18.40** Большой фестиваль. **19.15** Спорт. **19.20** "История любви". **20.15** Храм. **21.05** "Барнум". 2-я с. **22.10** Событие. **22.25** Спортивное обозрение. **22.35** Парадоксы истории.

**НТВ** **5.00** Сегодня утром. **9.15** Утречко. **9.30** Х/ф "Чокнутая" (США). **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Открытый мир. **12.45, 24.00** Телемагазин. **13.20** Большое "Времечко". **15.35** Дистанция 60. **16.35** "Голубое дерево". Х/ф. **17.30** "Улица Сезам". **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.40** Герой дня. **19.05** Х/ф "Секс-шпионаж" (США). **21.45** "Крутой Уокер: правосудие по-техасски". **22.40** Времечко. **23.00** Сегодня в полночь. **23.20** Ночное "Времечко". **0.10** Меломания.

**ТВ-6** **6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45** Шесть новостей. **6.10, 16.35, 23.15, 0.20** Диск-канал. **6.40** М/ф "Ветер в ивах". **7.10, 17.20, 23.00** Дорожный патруль. **7.20** Рецепты от "Цептер". **7.30** 90 х 60 х 90. **7.45, 10.10, 17.10** Аптека. **8.10** Телеконкретно. **8.30** "Пальчики оближешь". **9.05** Клуб одиноких сердец. **9.40** Вы — очевидец. **10.20, 12.20, 15.30, 16.55** "Спасибо за покупку!" **11.00, 17.50** "Семья Кэмпбеллов". **12.00, 15.20, 24.00** Знак качества. **12.50** "Великая Отечественная". Фильм 12-й. "Битва на море". **14.00** Х/ф "Дамы приглашают кавалеров". **16.05** "Школа разбитых сердец". **17.30** Частный случай. **19.05** Ток-шоу "Профессия". **20.15** "Династия II". **21.15** Те Кто. Юбилей "Крокодила". **21.45** Сериал "Сарацин".

## Среда, 4 июня

**БТ** **7.30** Утренний коктейль. **7.45, 19.10** "Музыкальная обойма". **7.50, 17.45** Экономикст. **8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 24.00** Новости. **8.10** "Голубая чашка". Х/ф. **9.10** "Око". О рекламе и не только .. **9.30** Туробъектив. **10.05** Бездельник. **10.35** Концертный сезон. **11.00** "Западный Вайкики". **11.55** Видимо-невидимо. **15.15** Видеокурс французского языка. **15.45** "Приключения Скиппи". **16.15** "Время местное". Д/ф. **16.30** Гости в дом. **17.00** Музыкальный антракт. **17.10** Арсенал. **18.20** "Западный Вайкики". **19.15** Тема дня. **19.35** Темная комната. **20.00** Ток-шоу "Это моя работа". **20.25** Авто-парк. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.45** "Цептер". **21.50** "Христофор Колумб". **22.50** "Королевская охота". **23.30** Мотоспорт.

**ОРТ** **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.40** Новости. **8.15** "Девушка по имени Судьба". **9.00** Тема. **9.45** "В мире животных". **10.20** Домашняя библиотека. **10.30** "Угадай мелодию". **14.20** "Волшебные приключения Квазимодо". М/ф. **14.45** Кактус и К. **14.55** До-ми-соль. **15.15** Зов джунглей. **15.40** "Гарри—снежный человек". **16.10** Теннис. **17.20** "Девушка по имени Судьба". **18.05** Погода. **18.10** Час пик. **18.35** "Угадай мелодию". **19.00** "Парижские тайны" Эльдара Рязанова. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** Х/ф "История Адели Г." **22.35** Теннис. **23.50** Пресс-экспресс.

**РТР** **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.15** С добрым утром! **8.05** "Клубничка". **8.35** L-клуб. **9.10** "Санта-Барбара". **14.05** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **14.45** Парламентарий. **15.10** Ваше право. **15.25** "Клубничка". **16.15** Там-там новости. **16.25** Лукоморье. **16.50** Посмотри на себя. **17.05** Россияне. **17.20** Люди, деньги, жизнь.. **18.00** "Санта-Барбара". **19.35** Добрый вечер. **20.15** "Городской романс". Х/ф. **22.35** "Возвращение в Ивановку". С.В.Рахманинов. **23.15** Кафе "Обломов".

**5** **11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ. **12.10** "История любви". **13.00** Срок ответа — сегодня. **13.35** Советы садоводам. **14.10** Овертайм. **14.45** "Подставленный". Х/ф (США). 1-я с. **15.40, 20.50** Телеслужба безопасности. **16.05** Еще одна Россия. **16.45** Зебра. **17.15** М/ф. **17.30** Телемагазин. **18.40** Большой фестиваль. **19.15** Спорт. **19.20** "История любви". **20.15** Касается всех. **21.05** "Подставленный". Х/ф (США). 1-я с. **22.10** Событие. **22.25** Спортивное обозрение. **22.35** "Телекомпакт".

**НТВ** **5.00** Сегодня утром. **9.15** Утречко. **9.30** "Доктор Куин, женщина-врач". **10.30, 17.30** "Улица Сезам". **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Открытый мир. **12.45, 24.00** Телемагазин. **13.20** Большое "Времечко". **15.35** Дистанция 60. **16.35** "Голубое дерево". Х/ф. **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.40** Герой дня. **19.05** Хоккей. **21.45** "Крутой Уокер: правосудие по-техасски". **22.40** Времечко. **23.00** Сегодня в полночь. **23.20** Ночное "Времечко". **0.10** Меломания: Билл Эванс.

**ТВ-6** **6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.05, 22.45** Шесть новостей. **6.10, 16.35, 23.15, 0.20** Диск-канал. **6.40** М/ф "Ветер в ивах". **7.10, 17.20, 23.00** Дорожный патруль. **7.20** Рецепты от "Цептер". **7.30** 90 х 60 х 90. **7.45, 10.20, 17.10** Аптека. **8.10** Частный случай. **8.30** "Обоз". **9.30, 20.20** "Династия II". **10.30, 12.30, 15.30, 16.55** Телемагазин. **11.00, 17.50** "Семья Кэмпбеллов". **12.00** "Человек на своем месте". Д/ф. **12.50** "Великая Отечественная". Фильм 13-й. "Освобождение Украины". **14.00** Х/ф "Девушка спешит на свидание". **15.10, 24.00** Знак качества. **16.05** "Школа разбитых сердец". **17.30** Частный случай. **19.05** Ток-шоу "Я сама". **21.15** Те Кто. **21.45** Сериал "Сарацин".

## Четверг, 5 июня

**БТ** **7.30** Утренний коктейль. **7.45, 19.10** "Музыкальная обойма". **7.50, 17.45** Экономикст. **8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.30** Новости. **8.10** Авто-парк. **8.20** "По дорогам "Слова о полку Игореве". Д/ф. **8.53** Выпускной экзамен по белорусскому и русскому языкам за курс базовой школы. **9.00** Телевизионный Дом кино. **9.30** "Варвара-краса, Длинная Коса". Х/ф. **10.50** Гости в дом. **11.25** "Западный Вайкики". **12.15** "Королевская охота". **13.10** Музыкальный антракт. **13.20** М/ф. **15.15** "Приключения Скиппи". **15.45** "Голоса земли моей". Д/ф. **16.05** Родовод. **16.25** "Свято-Евфросиньевские чтения". **17.00** Музыкальный антракт. **17.10** Уроки Н.Новожиловой. **18.20** "Западный Вайкики". **19.15** Тема дня. **19.35** Сделано в Беларуси. **19.50** "АРТ-клуб". **20.25** Летний день деревни. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** Телебарометр. **22.05** "Христофор Колумб". **23.00** "Крок". **23.40** Конный спорт.

**ОРТ** **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 0.10** Новости. **8.15** "Девушка по имени Судьба". **9.00** "Парижские тайны" Эльдара Рязанова. **9.40** "Клуб путешественников". **10.35** Домашняя библиотека. **10.40** Смак. **14.20** "Волшебные приключения Квазимодо". М/ф. **14.45** Остров Чунга-Чанга. **15.15** Лего-го! **15.40** "Гарри—снежный человек". **16.10** Теннис. **17.20** "Девушка по имени Судьба". **18.05** Погода. **18.10** Час пик. **18.35** Джентльмен-шоу. **19.05** Моя семья: конфликт поколений. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** Х/ф "За пригоршню динамита". **23.25** Теннис. **0.20** Пресс-экспресс.

**РТР** **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.15** С добрым утром! **8.05** "Клубничка". **8.35** Бесконечное путешествие. **9.10** "Санта-Барбара". **14.05** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **14.45** На пороге века. **15.10** "Темная" для.. **15.25** "Клубничка". **16.15** Там-там новости. **16.25** Лукоморье. **16.50** Посмотри на себя. **17.05** Россияне. **17.20** Избранные. **18.00** "Санта-Барбара". **19.35** Добрый вечер. **20.20** "Кинотавр-97". **21.15** Хамелеон. **22.35** Баскетбол. **23.35** По вашим письмам.

**5** **15.05** "История любви". **15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ. **16.05** "Подставленный". 2-я с. **16.55** Детское ТВ. **17.30** Телемагазин. **18.40** Большой фестиваль. **19.15** Спорт. **19.20** "История любви". **20.15** Как быть любимыми. **20.50** Телеслужба безопасности. **21.05** "Подставленный". 2-я с. **22.10** Событие. **22.25** Спортивное обозрение. **22.35** Дом кино.

**НТВ** **5.00** Сегодня утром. **9.15** Утречко. **9.30** "Доктор Куин, женщина-врач". **10.30, 17.30** "Улица Сезам". **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Открытый мир. **13.20** Большое "Времечко". **15.35** Дистанция 60. **16.35** Х/ф "Голубое дерево". **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.40** Герой дня. **19.05** Х/ф "Газонокосильщик-2" (США-Великобритания-Япония). **20.45** Русский альбом. **21.45** "Крутой Уокер: правосудие по-техасски". **22.40** Времечко. **23.00** Сегодня в полночь. **23.20** Ночное "Времечко". **0.10** Х/ф "И он сказал вам "прощайте" (Литва).

**ТВ-6** **6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45** Шесть новостей. **6.10, 16.35, 23.15, 0.20** Диск-канал. **6.40** М/ф "Ветер в ивах". **7.10, 17.20, 23.00** Дорожный патруль. **7.20** Рецепты от "Цептер". **7.30** 90 х 60 х 90. **7.45, 10.15, 17.10** Аптека. **8.10** Частный случай. **8.30** Док. сериал "Великие ценности мира". "Греция". Часть 1-я. **9.00** "Назло рекордам!" **9.25, 20.15** "Династия II". **10.30** "Саратов: что делать?" **11.05, 17.50** "Семья Кэмпбеллов". **12.05, 24.00** Знак качества. **12.15, 15.30, 16.55** Телемагазин. **12.50** "Великая Отечественная". Фильм 14-й. "Освобождение Белоруссии". **14.00** Х/ф "Будьте моим мужем". **16.05** "Школа разбитых сердец". **17.30** Частный случай. **19.05** Ток-шоу "Сделай шаг". **21.15** Те Кто. **21.45** Сериал "Сарацин".

## Пятница, 6 июня

**БТ** **7.30** Утренний коктейль. **7.45, 17.50** "Музыкальная обойма". **7.50, 17.40** Экономикст. **8.00, 13.0015.00, 18.35, 24.00** Новости. **8.10** Телебарометр. **8.20** Бархатный сезон. **8.53** Выпускной экзамен по белорусскому и русскому языкам за курс средней школы. **9.00** "Блуждающие огоньки". Х/ф. **11.10** "АРТ-клуб". **12.20** "Зорная ростань". **15.15** Видеокурс французского языка. **15.45** "Приключения Скиппи". **16.15** Усадьба. **16.45** "Прикосновение". Д/ф. **17.00** Музыкальный антракт. **17.10** "Белая амфора-97". **18.00** Гандбол. **19.25** Тема дня. **19.45** "Проверка". Спектакль по рассказу В.Кадетовой. **20.00** "В джазе только девушки". **20.25** Музыкальный антракт. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** "Дурное влияние". Х/ф (США). **23.30** Международные соревнования по легкоатлетическому метанию на призы олимпийского чемпиона Р.Клима. **0.10** Акколада.

**ОРТ** **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.55** Новости. **8.15** "Девушка по имени Судьба". **9.05** Моя семья. **9.45** Пока все дома. **10.20** Домашняя библиотека. **10.25** Играй, гармонь любимая! **14.20** "Осенние колокола". Х/ф. **15.35** Теннис. **16.30** Пушкин в Михайловском. **17.20** "Девушка по имени Судьба". **18.10** Погода. **18.15** Человек и закон. **18.45** Поле чудес. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** Х/ф "Восток — дело тонкое". **22.10** Взгляд. **23.05** Теннис. **0.35** Пресс-экспресс.

**РТР** **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.15** С добрым утром! **8.05** "Клубничка". **8.35** "Аншлаг" представляет. **9.10** "Санта-Барбара". **14.05** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **14.45** Золотая карта России. **15.10** Ничего, кроме.. **15.25** "Клубничка". **16.15** Там-там новости. **16.25** Лукоморье. **16.45** Посмотри на себя. **17.05** Россияне. **17.20** Парламентский вестник. **18.00** "Санта-Барбара". **19.35** Добрый вечер. **20.20** Х/ф "Деревенский детектив". **22.30** "Кинотавр-97". **22.50** Тихий дом. **23.30** Ночной экспресс.

**5** **11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ. **12.10** "История любви". **13.00** Срок ответа — сегодня. **13.35** Советы садоводам. **14.10** Ток-шоу "Наобум". **14.45** Парадоксы истории. **15.15** Сокровища Петербурга. **15.40, 20.45** Телеслужба безопасности. **16.05** Р.Шуман. "Любовь и жизнь женщины". **16.45** "Я числюсь по России..." **17.15** "Александровский парк". Телефильм. **17.30** Телемагазин. **18.40** Большой фестиваль. **19.15** Спорт. **19.20** "История любви". **20.15** "Поедем в Царское Село". **21.00** Игра "Лотто-бинго". **22.10** Событие. **22.25** Спортивное обозрение. **22.50 Питерский рок-фестиваль-97.**

**НТВ** **5.00** Сегодня утром. **9.15** Утречко. **9.30** "Доктор Куин, женщина-врач". **10.30** "Улица Сезам". **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Открытый мир. **12.45, 23.45** Телемагазин. **13.20** Большое "Времечко". **15.35** Дистанция 60. **16.35** Х/ф "Голубое дерево". **17.30** Футбольный клуб. **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.40** Герой дня. **19.05** Х/ф "Трактир на Пятницкой". **20.40** "Алло, Фима!" **21.45** "Крутой Уокер: правосудие по-техасски". **22.40** Времечко. **23.00** Сегодня в полночь. **23.20** Ночное "Времечко". **23.55** Х/ф **"Монстры"** (США).

**ТВ-6** **6.00, 8.00, 13.50, 18.40, 20.20, 22.55** Шесть новостей. **6.10, 16.35, 23.25, 0.20** Диск-канал. **6.40** М/ф "Ветер в ивах". **7.10, 17.10, 23.10** Дорожный патруль. **7.30, 13.05** 90 х 60 х 90. **7.45, 10.15, 17.00** Аптека. **8.10** Частный случай. **8.30** Ток-шоу "Мое кино". **9.25** "Династия II". **10.30, 12.35, 15.30** Телемагазин. **11.00** Х/ф "Выстрел". **12.20** Знак качества. **13.20** М/ф. **14.00** Х/ф "Нас венчали не в церкви". **16.05** "Школа разбитых сердец". **17.25** "Ералаш". **17.35** Шоу Бенни Хилла. **18.10** Вы — очевидец. **18.55** "Формула радуги". **20.35** Клуб "12 копеек". **21.05** Х/ф "Попутчик" (США). **0.10** Знак качества. **0.30** На-На.

## Суббота, 7 июня

**БТ**

**8.00, 15.00, 21.00** Новости. **8.15** Здоровье. **8.53** Выпускной экзамен по математике. **9.00** Все про все. **9.25** Под углом 23.5 градусов. **9.50** Уроки Н.Новожиловой. **10.15 Регион.** **10.40** "Судьба моя и надежда". **11.10** 4-е измерение. **11.35** Зеркало. **11.55** Многоголосие. **12.25** Вечерки. **13.00** Футбол. **15.15** Телеспорт. **16.00** К 45-летию хора имени Цитовича. 2-я часть. **16.55** Риск-версия. **17.25** Белорусский дом. **17.55** Зорная ростань. **18.30** Галерея. **19.00** Х/ф "Вечерний лабиринт". **20.15** История любви. **20.40** Колыбельная. **21.45** Теленавигатор. **22.05** "Борцы с преступностью". Х/ф (Ит). **24.00 Видимо-невидимо.**

**1 канал**

**7.00** Х/ф "Ни пуха ни пера". **8.10** М/ф. **8.40** Лотто-Миллион. **8.45** Домашняя библиотека. **9.00, 14.00, 17.00** Новости. **9.10** Слово пастыря. **9.30** Утренняя почта. **10.05** Каламбур. **10.35** Смак. **10.55** Возвращение Третьяковки. **11.20** Х/ф "С верой, надеждой, любовью". **12.50** Поехали!. **13.25** Очевидное-невероятное. **14.20** М/ф. **15.10** Америка с М.Таратутой. **15.40** В мире животных. **16.15** Колесо истории. **17.20** Теннис. **17.50** Х/ф "Табор уходит в небо". **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.55** "Леди-босс". **21.50** *Что? Где? Когда?* **23.00** Теннис.

**РТР**

**7.00** Утренний экспресс. **8.05** Меморина. **8.30** Адреналин. **8.45** Доброе утро, страна! **9.30** В мире животных. **10.00** Вести в 11. **10.15** "Хочу в артисты!" **10.55** "Романсиада-97". **11.05** Баскетбол. **12.00** Анонимные собеседники. **12.30** Наш сад. **13.00** Вести про.. **13.25** "Уважаемый человек". 3-я с. **14.25** Караоке по-русски. **14.55** Двойной портрет. **15.20** Бесконечное путешествие. **15.50** Легенды Большого. **16.45** Футбол без границ. **17.15** Телескоп. **17.55** Субботний вечер с Ириной Родниной. **19.00** Вести. **19.35** Сам себе режиссер. **20.10** "Мечты на задворках". Х/ф (США). **22.10** Момент истины. **23.05** Репортер. **23.20** Программа "А".

**5 канал**

**9.05** "Честь имею". **9.35** Хуторок. **10.05** "Инспектор Гэджет". М/ф (Франция). **10.25** "Дикие собаки". Док. сериал (Франция). **11.20** Ток-шоу "Наобум". **11.55, 13.55, 15.55, 18.55** Информ ТВ. **12.10** Чемпионат мира по спортивным танцам. **13.40** М/ф. **14.10** Еще одна Россия. **14.40** Театральная провинция?. **15.10** Исторические расследования. **16.10** Спортивное обозрение. **16.30** Весь этот цирк. **17.15** Страсти-мордасти. **17.30** Телемагазин. **18.40** Большой фестиваль. **19.20** Чемпионат мира по водно-моторному спорту. "Формула-1". **20.25** Право на успех. **20.35** Еще одна Россия. **20.55** Светская хроника. **21.10** Блеф-клуб. **21.45** "Парад парадов" представляет… **22.30** Питерский рок-фестиваль-97.

**НТВ**

**7.00** Сегодня утром. **9.00** М/ф "Необычайные приключения доктора Дуллитла". **9.30** "Пойми меня". **10.00** Х/ф "Воины времени". 1-я серия (США). **10.45** "От "Винта". **11.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Хоккей. **14.30** "Панорама" с Всеволодом Овчинниковым. **16.00** Русский альбом. **16.30** М/ф "Человек-паук". **17.00** Кино, кино, кино: новости Голливуда. **17.30** Дог-шоу. **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.30** Герой дня без галстука. **19.00** Х/ф "Кошмар на улице Вязов". Фильм 5-й (США). **20.45** "Куклы". **21.45** Гала-концерт звезд российской эстрады "Союз-20". **23.25** "Империя страсти". **0.05** "Плейбой-шоу".

**TV6**

**6.00, 7.00, 18.05, 22.10** Шесть новостей. **6.10** Музыка кино: песни из фильмов Л.Гайдая. **6.30** Клуб "12 копеек". **7.10, 23.15** Дорожный патруль. **7.25** М/ф. **8.10** "Цептер"-приз. **8.20** Х/ф "Пропало лето". **9.45** "Это мы не проходили!" **10.20** "Дикая природа Австралии". **11.25** Открытия недели. **12.00** Документальный сериал "Теория заговоров". "Адский огонь". **13.00** Диск-канал для детей. **13.55** Ток-шоу "Я сама". **14.55** Ток-шоу "Профессия". **15.45** Клуб одиноких сердец. **16.20** Сериал "Суперагент шимпанзе". **17.10** "Ералаш". **17.45** Киноподробно. **18.15** Диск-канал. **18.55** Скандалы недели. **19.25** "ОСП-студия". **20.15** "Фитиль". **20.25** Х/ф "Джентльмены удачи". **22.20** "Обоз". **23.30** Диск-канал. **0.20** Х/ф "Взрыв" (Канада).

## Воскресенье, 8 июня

**БТ**

**8.00** Коктейль. **9.00** Телебом. **9.30** Мультиклуб. **10.00** Вершина мира. **10.35** Все нормально, мама! **11.05** Туробъектив. **11.35** "Война в воздухе". **12.00** Сельчане. **12.30** Телек-шоу. **12.45** М/ф. **13.05** Олимп. **13.25** Золотые ключи. **14.00** Гандбол. ЧМ среди юниоров. **15.25** Уникум. **16.00** Телеанонс. **16.05** Портреты. **16.30** Оскар. **17.00** Футбол. Отборочный матч чемпионата мира. Сборная **Беларуси** — сборная **Шотландии.** **19.05** Бездельник. **19.40** Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50 Спортивный телекурьер.** **21.10** Телебарометр. **21.25** Карамболь. **21.55** Бархатный сезон. **22.30** Х/ф "Горькая луна" (Фр-Вел).

**1 канал**

**6.55** Х/ф "Таинственная находка". **8.10** М/ф. **8.55** Спортлото. **9.00, 14.00** Новости. **9.10** Непутевые заметки. **9.30** Пока все дома. **10.10** Утренняя звезда. **11.00** Служу России! **11.30** Играй, гармонь любимая! **12.00** Сельский час. **12.25** "Подводная одиссея команды Кусто". **13.25** Смехопанорама. **14.15** Приглашение к музыке. **14.45** Клуб путешественников. **15.35** Мультфейерверк. **16.20** Теннис. **16.45** Один на один. **17.10** Футбольное обозрение. **17.50** Х/ф "Дом у дороги". **20.00** Время. **20.35** Киноафиша. **20.45** "Леди-босс". **21.40** КВН-ассорти. **22.10** Теннис.

**РТР**

**7.00** Утренний экспресс. **8.10** "Солти". **8.35** У всех на устах. **8.50** Доброе утро, страна! **9.30** Присяга. **10.00** Вести в 11. **10.15** Русское лото. **10.55** Без пяти двенадцать. **11.00** Книжная лавка. **11.25** Человек на Земле. **11.50** Сад культуры. **12.15** Учитель года-97. **13.00** Вести. **13.20** "Уважаемый человек". Х/ф. **14.25** Волшебный мир Диснея. **15.20** Репортаж ни о чем. **15.35** Довгань-шоу. **16.05** Весь мир. **16.45** Вечер с А.Гурновым. **17.05** Удивительный мир. **17.25** L-клуб. **17.55** РТР в гостях у телезрителей. **18.10** Аншлаг. **18.40** Ситуация. **19.00** Зеркало. **20.00** Футбол. ЧМ. **21.50** "К-2": Перпендикулярное кино. **22.50** У Ксюши. **23.20** Кинотавр-97. **23.30** Ночная жизнь городов мира. **24.00** Гороскоп и видеомедитация.

**5 канал**

**8.30** Целительное слово. **9.05** Папа, мама и я — спортивная семья. **9.35** Овертайм. **10.05** "Инспектор Гэджет". М/ф (Франция). **10.25** "Слоны Африки: борьба за территорию". Док. сериал (Фр). **11.20** Роман с героем. **11.55, 13.55, 15.55** Информ ТВ. **12.10** "Наследница по прямой". Х/ф (Р). **13.40** Экспресс-кино. **14.10** Еще одна Россия. **15.10** Легенда о красной Жизели. **16.10** Над башнями Красного форта. **16.35** Детское ТВ. **18.35** Сокровища Петербурга. **18.55** Обратный отсчет. **19.20** ЧМ по водно-моторному спорту. **20.55** У всех на виду. **21.10** Ноу смокинг. **21.55** Международное обозрение. **22.30** Питерский рок-фестиваль-97.

**НТВ**

**7.00** Сегодня утром. **9.00** Устами младенца. **9.30** "Пойми меня". **10.00** Х/ф "Воины времени". **10.45** "От "Винта". **11.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Книжный магазин. **12.30** "Маски-шоу": избранное. **13.00** "Каролина в Нью-Йорке" (США). **13.30** "Недотепы" Семена Альтова. **13.45** Русский альбом. **14.00** Время "Ч" с Ольгой Кучкиной. **14.30** "Своя игра". **16.00** Х/ф "Зефир в шоколаде". **17.30** "Русские гвозди". **18.00** Сегодня вечером. **18.30** Х/ф "Третий не лишний". **20.00** Итоги. **21.10** Х/ф "Пассажир 57" (США). **22.50** Международный турнир по футболу. Бразилия — Италия. **0.25** Третий глаз. **1.05** Телемагазин.

**TV6**

**6.00, 7.00, 16.50** Шесть новостей. **6.10** Музыка кино. **6.30** Скандалы недели. **7.10** Дорожный патруль. **7.25** М/ф. **8.30** Х/ф "Золушка" (США). **10.05** Пальчики оближешь. **10.35** Назло рекордам! **11.05** "Дикая природа Австралии". **12.05** Канон. **12.40** Музыка и пресса. **13.35** Сделай шаг. **14.30** Спорт недели. **15.00** Ералаш. **15.35** Москва Юлии Меньшовой. **15.55** "Суперагент шимпанзе". **17.00** Мое кино. **17.45** Телеконкретно. **18.00** Дорожный патруль. **18.20** Обозреватель. **19.10** Фитиль. **19.25** Х/ф "Трембита". **21.15** Шоу Бенни Хилла. **21.35** Х/ф "Спасите "Титаник" (Вел). **23.30** PARTY ZONE. **0.55** Выше только звезды.

Краязнаўства

# Юбілей экспедыцыі К. Тышкевіча

***Вядомы беларускі археолаг, этнограф і краязнаўца Канстанцін Тышкевіч улетку 1857 года арганізаваў комплексную навуковую экспедыцыю па рацэ Вілія. Гэтым летам спаўняецца 140 год унікальнай акцыі таленавітага вучонага з Лагойска. К. Тышкевіч паставіў перад сабой задачу вывучыць гідраграфію ракі Вілія, этнаграфію і гісторыю насельніцтва яе берагоў. Да экспедыцыі ён рыхтаваўся грунтоўна. Неабходныя для плавання судны былі загадзя, у 1856 годзе, пабудаваныя ў Лагойску і зімой на спецыяльных санях дастаўлены на бераг Віліі ў вёску Камена цяперашняга Вілейскага раёна - месца старту экспедыцыі.***



Для ўдзелу ў экспедыцыі К. Тышкевіч запрасіў каморніка І. Шантыра, графікаў А. Бартэльса і М. Янушкевіча, якія выконвалі замалёўкі разнастайных аб'ектаў па берагах ракі. У Вілейцы да экспедыцыі мусіў далучыцца пісьменнік Ігнацы Ходзька, аднак да моманту прыбыцця экспедыцыі ў Вілейку ён адсутнічаў у сваёй сядзібе Дзевятня.

Верхнюю, найбольш мелкаводную частку Віліі, цэлая брыгада на чале з К. Тышкевічам прайшла пешшу. Да вытокаў Віліі яна прыбыла 28 мая, а 2 чэрвеня а восьмай гадзіне вечара даследчыкі вярнуліся ў Камену. Пры гэтым была складзена тапаграфічная карта вярхоўяў ракі і праведзены археалагічныя і этнаграфічныя даследаванні.



Пакуль К. Тышкевіч пешшу даследаваў вярхоўі ракі, ля маста ў Камене рамеснікі вялі зборку суднаў экспедыцыйнай флатыліі. Паглядзець на яе прыязджалі ўладальнікі навакольных маёнткаў, жыхары бліжэйшых вёсак. Флатылія сапраўды ўражвала - яна складалася з пяці суднаў. Галоўны карабель - "Мария"- парусны, з трумам і крытым павільёнам, з двух бакоў упрыгожаны гербам. Другі карабель - "Адъютант", значна меншы, быў прызначаны для навуковых работ. Трэці - "Выгода", цалкам крыты, з печчу з высокай трубой, служыў кухняй. Пры ім была чацвертая лодка - склад прыпасаў. Пятая лодка прызначалася для сувязі з берагамі і між суднамі.

Экспедыцыя стартавала а 3 гадзіне дня 5 чэрвеня 1857 года. Правесці яе сабралася мноства народу на мосце праз Вілію і бліжэйшай дарозе. Флатылію блаславіў ксёндз Юзаф Львовіч з Даўгінава. Аднак усё атрымалася не так, як марыў К. Тышкевіч,- судны мелі вострыя кіль і не маглі плаваць па мелкай рацэ, якой з'яўляецца Вілія. Вялікі карабель адразу ж сеў на мель і вучонаму давялося адмовіцца ад лішняй раскошы. Удзельнікі экспедыцыі пераначавалі ля вогнішчаў і 6 чэрвеня на досвітку пачалі пераабсталёўваць пласкадонную лайбу, якую даў Тышкевічу знаёмы памешчык пан Снежка. З "Марии", якая ляжала на баку, знялі павільён, мачты, усталявалі іх на лайбе, перанеслі печ. І вось а 3 гадзіне дня экспедыцыя стартавала другі раз. У плаванне адправіліся лайба і дапаможны бот, які назвалі "Адъютант". Кіраваў лайбай 70-гадовы вопытны рачнік Васіль Буслаўскі Сапежка. На працягу некалькіх месяцаў экспедыцыя даследавала ўсю раку да яе вусця. Пры гэтым вымяралася даўжыня ракі, шырыня, глыбіня, хуткасць плыні, характар дна. Была праведзена бараметрычная нівеляцыя ракі, падрыхтаваны атлас 39 парогаў з іх апісаннем і тапаграфічнай здымкай. Фіксаваліся таксама назвы парогаў, легенды і паданні пра іх. На шляху экспедыцыі былі наведаны ўсе населеныя пункты, вывучаны помнікі архітэктуры і археалогіі, размешчаныя па берагах ракі. Пры наведванні населеных пунктаў вывучаўся быт, звычаі мясцовага насельніцтва, запісваліся легенды, паданні, песні. Усё гэта вучоны абагульніў у манаграфіі "Вилия и её берега", якая выйшла ў Дрэздэне на польскай мове ў 1871 годзе, пасля смерці аўтара. Вялікая - на 350 старонак - кніга цікавая па сваім змесце, ілюстраваная прыгожымі малюнкамі.




Экземпляр яе захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Мінску. У завяршэнне трэба адзначыць, што праведзеная Тышкевічам экспедыцыя і напісаная ў выніку яе кніга - з'ява ўнікальная для рэк Беларусі, ды і не толькі яе - многія рэкі Еўропы і нават свету могуць пазайздросціць тут нашай Віліі.

***Аляксандр ЗАЙЦАЎ,***
***фотарэпрадукцыі аўтара.***

# Літаратурная горка

***У сталіцы Літоўскай Рэспублікі Вільні ёсць шмат гістарычных месцаў, звязаных з Беларуссю, яе гісторыяй і культурай. Адно з іх— гістарычныя могілкі Расу, або, па-старым, Росы. Тут пахавана шмат вядомых людзей мінулага і пачатку цяперашняга стагоддзяў, чые жыццё і творчасць звязаныя з Літвой і Беларуссю. Сярод іх— Я. Тышкевіч і В. Сыракомля.***

**Яўстафій Тышкевіч (1814-1873)**— беларускі археолаг, этнограф, гісторык, ураджэнец Лагойска. Заснавальнік Віленскага музея старажытнасцей (1856). Быў абраны старшынёй гэтай установы і Віленскай археалагічнай камісіі. З'яўляўся пачэсным членам Пецярбургскай і Стакгольмскай Акадэмій навук, Лонданскага археалагічнага інстытута.

**Уладзіслаў Сыракомля (сапраўднае імя Людвіг Кандратовіч, 1823-1862)**— паэт, краязнаўца, нарадзіўся ў вёсцы Смольгаў на Любаншчыне. Пісаў у розных жанрах— паэзія, проза, драматургія, публіцыстыка. Абодва яны былі добра знаёмыя пры жыцці і пасля смерці аказаліся разам: пахаваны побач на Літаратурнай горцы могілак Росы. Побач з Уладзіславам Сыракомлям пахавана яго жонка Паўліна з Мітрашэўскіх.

***Аляксандр ЗАЙЦАЎ.***

## Па сакрэту ўсяму свету



# Некалькі рэцэптаў прыгатавання салаты

**З бульбы і памідораў**

4 зваранья ў мундзіры бульбіны, 1-2 памідоры, 1 рэпчатая цыбуліна. Усё дробна нарэзаць, пасаліць і заправіць алеем.

**З капусты і арэхаў**

Свежую капусту (0,5 кг) буйна парэзаць і варыць у падсоленым кіпені 5 хвілін без накрыўкі, каб знік спецыфічны капусны пах. 100 г грэцкіх арэхаў расцерці з 3-ма зубчыкамі часнаку ў аднародную масу. Сюды дадаць адцэджаную капусту. Расціраць, пакуль капуста зусім не разыдзецца і маса не стане аднароднай. Паперчыць крыху і заправіць салату маянезам.

**З кукурузы і крабавых палачак**

На адну бляшанку кансерваванай кукурузы і пачак крабных палачак трэба 4 вараныя яйкі і 1 рэпчатая цыбуліна. Крабавыя палачкі, яйкі, цыбуліну дробна парэзаць. Змяшаць з кукурузай і заправіць маянэезам. Салату ўжываць ахалоджанай. Цудоўна спалучаецца з белым сухім віном.

**Дэсерт**

Змяшаць дробна нарэзаныя фрукты: яблыкі, апельсіны, бананы. Дадаць сюды размочаныя разынкі. Раскласці масу па парцыённых крэманках. У кожную зверху пакласці 1-2 ст. лыжкі ўзбітай з цукрам смятаны ці вяршкоў. Перамешваць не трэба.

*Смачна есці!*

## Не лыкам шытыя

# Як "Пеле" пілі "Пілігрымы"

*СТОЎБЦЫ-МАЛАДЗЕЧНА. Са статуэткай залатой Нікі-- прызам за першае месца-- вярнулася ў Маладзечна са Стоўбцаў каманда "Пілігрым-І" з турысцкага марафона "100 кіламетраў за 24 гадзіны".*

Другое і трэцяе месцы занялі адпаведна каманды "Пілігрым-ІІ", "Пілігрым-ІІІ". Усе яны прадстаўлялі маладзечанскі турыстычны клуб "Пілігрым". Маладзечанцы былі першымі не толькі ў камандным заліку, але і ў асабовым. Першыя месцы ў сваіх узроставых групах занялі Ларыся ПЯТРЭНКА, Вадзім ПРОНЧАНКА, Тамара КАНЦАВАЯ, Міхаіл ШУЛЬЖЫЦКІ, Аляксандра КУШНІКАВА, Тамара НЕХВЯДОВІЧ, Канстанцін МЕЛЬНІКАЎ. А Святлана КОШАЛЕВА стала абсалютнай чэмпіёнкай сярод жанчын.

У перапынках паміж этапамі маладзечанцы адпачывалі і радавалі іншых спартыўнымі дасягненнямі ў спажыванні кавы. Яны пілі вёдрамі напітак пад назвай "Пеле". Даказана, што 10 літраў PELE 32 чалавекі выпіваюць за 15 мінут. Лёгка.

*Мікола ГАЙДУК.*

# Сукенка для маці

*АСТРАВЕЦ. У той час, калі равеснікі Пашы і Жэні Махневічаў збіраюць маркі, фанцікі ды іншую драбязу, тыя заняліся куды больш сурёзнай справай - калекцыяніруюць грошы.*

Ужо назбіралі больш за 70 манет розных, як прынята гаварыць, часоў і народаў. Ёсць тут і амерыканскія, і французскія, і нямецкія, і нават тайваньскія з ганконгскімі.

Хлопчыкі пакуль вучацца ў СШ № 1, а збіраюць калекцыю ўсяго чатыры месяцы. У планах - набраць як мага больш манет і прадаць. На выручку мяркуюць купіць не шыкоўны "Мерседэс", а прыгожую сукенку для маці. Апошняй можна па-добрым пазайздросціць.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Адам і Ева

# Рэстарану – так! Кінатэатру – не!

*Лета. Калі паедзеце на адпачынак ў незнаёмы горад (ці з'едзе на адпачынак жонка з дзіцем)— не сумуйце. Імкніцеся завесці новыя знаёмствы. А я вам параю, як гэта зрабіць.*

1. Пытацца, дзе знаходзіцца тэлефон— паказваць сябе "цёмным", з глыбінкі. Таксафоны на вуліцах звычайна паламаныя і разумны чалавек завітае ў першую ўстанову. А калі яшчэ купіць мімаходзь танны шакалад— сядзець "на тэлефоне" дазволяць тыдзень.

У прыгожай дзяўчыны спытайцеся аб месцы знаходжання Плошчы Незалежнасці (цэнтральная плошча практычна ў любым горадзе). Папрасіце правесці вас туды. Падарыце ўсмешку і чырвоную ружу. Маўляў, прызначалася сваячцы, якая павінна была сустрэць.

2. Калі вы ўдвух (утрох), падыдзце да "ахвяры" і шчыра растлумачце сітуацыю: вы паспрачаліся наконт яе ўзросту. Называеце дзве версіі ўзросту, прычым абедзве на гадоў 5-10 маладзей за знешні выгляд. Такім чынам, атрымліваецца двайны камплімент— звярнулі ўвагу і яшчэ скасавалі пару гадоў.

3. Купіце два білеты ў тэатр. За паўгадзіны шукайце вачыма адзінокую аматарку культуры. Абітурыенты з перыферыі жадаюць сумясціць падрыхтоўку да паступлення з культурнай праграмай. Прапануйце білет— сядзіце побач і ў вас будзе дзве з паловай гадзіны на знаёмства.

4. Калі маеце грошы, завітайце ў рэстаран, кафэ. Неабавязкова першым ісці на кантакт. Да вас сядуць і самі будуць падтрымліваць размову— толькі частуйце.

5. Самае галоўнае. Калі не маеце грошай, лепш не чапляйцеся да супрацьлеглага полу. Памятайце— падарожжа па парку, наведанне кінатэатра— не актуальна. Запрашэнне ў кафэ, рэстаран— шанц, каб на вас звярнулі ўвагу.

*Адам САВІЦКІ.*

## Конкурсы

# Па абаранку за ўдзельніка

*СМАРГОНЬ. Тут прайшоў міжнародны конкурс камерных дзіцячых ансамбляў імя Агінскага.*

Сярод самых старэйшых удзельнікаў (трэцяя ўзроставая катэгорыя) аднадушна першае месца не прысуджана нікому. Сярод маленькіх месцы наогул не вызначаліся. Але тым не менш калектывы атрымалі званні лаўрэатаў. І сярод лепшых быў ансамбль скрыпачоў са Смаргоні пад кіраўніцтвам Святланы Коваль. Калектыў - з сямі чалавек-аднадумцаў: Вольгі Сосны, Аляксандра Паляшчука, Насці Глазкінай, Аляксандра Сакалоўскага, Вольгі Вайткевіч, Вольгі Мароз, Кацярыны Івановай. Музыканты пяты раз прымаюць удзел у конкурсе і на гэты раз атрымалі ганаровае званне.

Спецыяльным прызам ад аддзела культуры Смаргонскага райвыканкома ўзнагароджаны маладзечанскія хлопцы Андрэй Таргонскі (віяланчэль) і Павел Кудрына (фартэпіяна). Паэт Уладзімір Някляеў (сам са Смаргоні) прапанаваў двум з удзельнікаў - Дзмітрыю Уласюку і Яўгену Докшыцкаму - запісаць разам песню.

Строгае, але справядлівае журы пачаставалі славутымі мясцовымі абаранкамі.

*Андрэй ЮХНЕВІЧ.*



## На прыёме ў псіхолага

# Крытычны ўзрост

*МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе і раёне ад пачатку года зарэгістраваныя два дзесяткі выпадкаў самагубства. Сярод людзей, што пакінулі жыццё па ўласным жаданні, толькі адна жанчына. У 1995 годзе суіцыдаў было 60, у 1996— 55. Як сведчыць аналіз матэрыялаў, гэтыя факты адбыліся з-за беспрацоўя, неўладкаванасці жыцця, злоўжывання спіртным. Але псіхолагі выдзяляюць і катэгорыю асоб з высокім сацыяльным статусам, матэрыяльна забяспечаных. На пытанні газеты адказвае псіхолаг Таццяна Грышэль.*



— Згодна з сусветнай статыстыкай, самагубствы ўчыняюць 25% практычна здаровых людзей, столькі ж псіхічна хворых і 50%— асобы з пагранічнымі расстройствамі. Перавага за мужчынамі, якія злоўжываюць спіртным. Суіцыды ў жанчын носяць дэманстрацыйны характар. У падлеткаў найчасцей гэта вынік дрэнных узаемаадносінаў з бацькамі, характар таксама дэманстрацыйны.

**— Што становіцца прычынамі ўзнікнення спроб самагубстваў?**

— Часта гэта вынік псіхалагічнага крызісу ў выпадку страты эмацыянальных кантактаў з блізкімі людзьмі. Умоў для псіхалагічнага крызісу шмат. Гэта сямейныя калізіі, адзіноцтва, творчыя тупікі, вытворчыя канфлікты, міграцыя. У складаных сітуацыях чалавека ахоплівае хваля безнадзейнасці і ён становіцца бездапаможным.

**— Чым адрозніваецца стан людзей з суіцыдальнымі намерамі?**

— Зніжэннем пабуджэнняў, у тым ліку і сексуальных, пачуццём непаўнацэннасці, віны, а таксама апатыяй альбо, наадварот, узбуджанасцю, стамляльнасцю, пераменамі ў настроі з пагаршэннямі раніцай. Прычынамі становяцца дрэнныя ўзаемаадносіны з бацькамі, сварка з каханым, рэўнасць, абраза з боку начальніка, страта падтрымкі, цяжкасці быту, выхад на пенсію. Небяспечнасць суіцыду павышаецца пры рэакцыі "кароткага замыкання", калі, напрыклад, муж ці жонка раптоўна даведваюцца аб маючым адбыцца разводзе.

**— Які ўзрост можна вызначыць, як самы тыповы?**

— 35-40 гадоў. Так званы "крызіс сарака гадоў": дзеці падраслі, адукацыя і службовыя дасягненні ў мінулым, жонка, муж, як усе, наперадзе— нічога новага і цікавага. Чалавек пачынае ўспрымаць жыццё як аб'ект, з якім яго нічога не звязвае.

**— Ці перадаецца схільнасць да самагубства па спадчыне?**

— Ёсць магчымасць гаварыць толькі аб пэўнай паўтаральнасці з пакалення ў пакаленне. Няма дадзеных, каб гаварыць аб спадчыннасці. Можна толькі дапускаць, што ў неспрыяльных сітуацыях выкарыстоўваецца прынятая ў сям'і мадэль паводзінаў.

**— Можна папярэдзіць здарэнне?**

— Прафілактычную работу весці проста неабходна. Важнейшае месца ў ёй займаюць псіхатэрапеўтычныя ўздзеянні. Іншы раз гэта адзіны від дапамогі, неабходны пацыентам, якія перажываюць псіхалагічны крызіс. Людзям з суіцыдальнымі намерамі больш за ўсё патрэбны сяброўскі ўдзел, увага блізкіх. Маюць станоўчыя вынікі не толькі ўвага псіхолага-прафесіянала, але і проста аўтарытэтнага чалавека.

**— Ці ёсць метады самакантролю?**

— Калі бяда прыходзіць раптоўна, у чалавека проста няма часу падрыхтавацца. Іншая справа— зацягнутыя сітуацыі, звязаныя з разводамі, сямейнымі неладамі. Тут найбольш дарэчы метады аўтагеннай трэніроўкі. Нельга афішыраваць красамоўныя і падрабязныя расказы аб фактах суіцыду. Не выключана, што яны выклікаюць дадатковыя самагубствы па тыпе імітацыі. Трэба памятаць, што невырашальных праблемаў і тупіковых сітуацый няма.

*Наталля РАБЧАНКА.*



## Каляндар прыроды



# Чэрвень

## З народнага

*Чэрвень-- першы месяц лета. Мяккае і цёплае сонца, не шкадуючы цяпла і ласкі, як маці любае дзіцё, сагрэла зямлю.*

*Лета-- самы гарачы і напружаны час. Нездарма пра гэта гаворыцца ў многіх прыказках і прымаўках:*

- Летні дзень зіму корміць.
- Летні дзень-- на зімнюю нядзелю.
- Летам прызапасіш-- зімою знойдзеш.
- Летам гуляўшы-- восенню не збярэш.
- Хто ўлетку спіць, той узімку галадае.
- Хто халадку шукае, той узімку галадае.
- Сухое лета спрыяе цвіценню многіх красак, а мокрае-- росту траў:
- Калі ўлетку дождж рэдка бываець, тагды ў вуллі мёд прыбываець.
- Калі год сухі, купляй пчолку, а калі мокры-- кароўку.
- Якаво лета, такое і сена.

*Пра многае гавораць і іншыя трапныя прыказкі і прымаўкі:*

- Калі боб цвіцець— хлеб есца.
- Жыта красуе-- быдла гізуе.
- Калі камарна, то і хлебна.
- Смірнае лета болей ураджайна.
- Не прасі лета доўгага, а малі цёплага.
- Благое лета, калі сонца нету.
- Пастух рад лету, а пчала цвету.

*Янка БАРАВЫ.*

## Народны каляндар

*Чэрвень— месяц цішыні. Цяпло гэтага месяца ласкавейшае за футра. Па народных прыкметах, лета пачынаецца ад Семіка (12.06), а заканчваецца на Сымонастоўпніка (14.09).*

Калі на **Уляніцу (3.06)** непагадзь— да даждлівай восені.

Калі на провады **русалкі (16.06)** задзьме паўночназаходні вецер— да частых дажджоў улетку.

На **Розыгры (22.06)** зямля аддае сонейку ўсю сваю моц; надыходзіць "самы час касіць ды сена сушыць". А дзень напярэдадні лічыцца багатым на навальніцы.

А на **Акуліну-задзяры хвост (26.06)** сонца паварочвае на зіму, а лета на спякоту; надышоў сонцаварот,— кажуць людзі.



# крыжаванка
## склаў анатоль рогач (вілейка)



**Па гарызанталі:**
2. Раённы цэнтр Гомельскай вобласці, у якім размешчаны дзяржаўны музей народнай творчасці. 6. Іспанскі парны танец. 7. Імкненне да чысціні і строгасці нораваў, да аховы ад усялякіх новаўвядзенняў. 9. Гранічная норма. 10. Восьмы чэмпіён свету па шахматах. 11. Дзеючы вулкан на востраве Сіцылія. 13. Корм для жывёлы. 14. Насякомае сямейства пчаліных. 15. Беларус, военачальнік, Герой Савецкага Саюза, што вызначыўся ў бітве за Маскву. 19. Аб'яднанне паслядоўнікаў той або іншай рэлігіі, арганізацыя, якая ведае рэлігійным жыццём. 21. Школьная прыналежнасць. 24. Род травяністых кармавых раслін сямейства злакавых. 25. Вядомы французскі мастак. 26. Адважная партызанка брыгады "Народныя мсціўцы" імя В. Варнянскага, якая 2-га мая 1943 г. загінула пры мініраванні дарогі Вілейка-Маладзечна і пахавана тут пры перакрыжаванні з дарогай на Вязынь. 27. Бібліятэка нот. 28. Індзейскі народ у Мексіцы. 31. Планета сонечнай сістэмы. 34. Доўгі вузкі кусок кужэльнага палатна, звычайна з каймой або вышыўкай. 38. Вядомая вуліца ў Маскве. 40. Трапічнае ядавітае дрэва з сямейства тутовых. 41. Дробны лёд або насычаны вадой снег, які плыве на паверхні вады перад замярзаннем вадаёма. 42. Экватарыяльнае сузор'е. 43. Група народаў у Цэнтральнай і Паўднёвай Афрыцы. 44. Халодная будыніна для захоўвання кармоў, інвентару і іншага. 45. Папулярны тэлевядучы, загінуўшы ад рукі кілера. 46. Урачыстая вячэра напярэдадні Калядаў, Новага года.

**Па вертыкалі:**
1. Марка беларускага радыёпрыёмніка. 2. Вялікая кіеўская княгіня, жонка князя Ігара, правіла ў гады маленства сына Святаслава. 3. Царыца Грузіі, якой Ш. Руставелі прысвяціў паэму "Віцязь у тыгровай скуры." 4. Медыцынская ўстанова. 5. Прыталеная куртка ваеннага крою. 6. Вёска Маладзечанскага раёна, вядомая з 15-га стагоддзя, дзе ў розныя часы бывала многа знакамітых людзей. 8. Травяністая расліна сямейства злакавых. 10. Народны паэт Беларусі. 12. Рака ў Якуціі, левы прыток Алдана. 15. Адзін з першых Герояў Савецкага Саюза, удзельнік экспедыцыі па выратаванні "Чэлюскіна". 16. Вёска Смаргонскага раёна, вядомая ў мінулым таргамі і бярозамі. 17. Спецыяліст па цеплавой апрацоўцы металаў. 18. Жаночае імя. 20. Шантаж, вымаганне шляхам пагроз і насілля. 22. Вышэйшая ступень, вяршыня чаго-небудзь. 23. Доўгая вяроўка з рухомай пятлёй на канцы, ласо. 29. Адна з самых буйных малых планет. 30. Творы народнай творчасці. 32. Прыток Бярэзіны, які бярэ пачатак у Вілейскім раёне. 33. Военачальнік, у гонар якога заснаваны ордэн і медаль. 35. Ядомы грыб, падбярозавік. 36. Раённы цэнтр былой Маладзечанскай вобласці. 37. Парнакапытная жывёліна сямейства аленевых. 39. Кінарэжысёр, адзін з заснавальнікаў беларускай кінематаграфіі. 40. У "Іліядзе" два грэчаскія героі, неразлучныя сябры, ваяваўшыя пад Трояй.

## Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №20.

**Па гарызанталі:** 7. Анапест. 10. Пальба. 12. Метафара. 13. Фарс. 16. Ода. 17. Звестка. 19. Апаўданне. 21. Штраф. 22. Ром. 23. Кульмінацыя. 25. Дыфірамб. 28. Навела. 29. Мадрыгал. 32. Базар. 34. Палессе. 36. Вадэвіль. 38. Раман. 39. Трылогія. 40. Накрыж. 41. Метр. 42. Крэмень.

**Па вертыкалі:** 1. Кол. 2. Ямб. 3. Сарказм. 4. Памфлет. 5. Эпас. 6. Эпапея. 8. Фельетон. 9. Байка. 11. Аповесць. 14. Рэтуш. 15. Трагікамедыя. 18. Аф. 20. Адушаўленне. 24. Яр. 27. Мазіла. 30. Разгон. 31. Аса. 33. Нарыс. 35. Сатыра. 37. Дэкрэт.

## Людзі кажуць
## Бандыцкі напад

*АСТРАВЕЦ. У рэдакцыі ёсць звесткі, што ў ноч з серады на чацвер адбыўся бандыцкі напад на грузы адной з фірмаў, якія размяшчаліся на базе раённага аб'яднання аграпрамзабеспячэння.*

Невядомыя, прабраўшыся на тэрыторыю базы, збілі міліцыянера, а яшчэ двух ахоўнікаў звязалі "прыхапілі" з крадзеным грузам. Грузгэта каля дзесятка аўтамабіляў з ёмістасцямі, поўнымі спірту.

У астравецкай міліцыі не адмовілі факт бандыцкага нападу, але з каментарыямі папрасілі пачакаць. Будзем спадзявацца, што ў наступным нумары зможам даць больш падрабязную інфармацыю аб здарэнні.

*Аддзел інфармацыі.*

## Яўрэйскі анекдот
# Бедны і багаты

✡✡✡

Спыталіся раз у багацея, чаму ён дае добрую міласціну старым жабракам, але ніколі не дапамагае людзям навукі.

Ён адказаў:

— Хто ведае, можа, калі сам жабраком... Але ўпэўнены— чалавекам навукі не стану ніколі!

✡✡✡

Ліхвяр Пінас навучае свайго сына:

— Іцак, што б ты зрабіў, знайшоўшы дзесяць злотых?

— Я б схаваў іх у кішэню.

— Не, так нельга рабіць, сынку! Калі знойдзеш дзесяць злотых, то занясі іх у паліцыю. Там цябе пахваляць, дадуць адзін злоты, які табе належыць па закону і скажуць: "Іцак Пінсо прыстойны чалавек."

— Добра, тата.

— А скажы мне, сыне, што б ты зрабіў, знайшоўшы дзесяць тысяч даляраў?

— Занёс бы іх у паліцыю, там бы мяне пахвалілі, далі б тысячу даляраў, што належыць мне па законе.

— Не рабі так ніколі,— перапыніе бацька.— Калі знойдзеш такую суму, схавай яе ў кішэнь!

— Тата,— пратэстуе сын,— дык яны ж тады не скажуць: "Іцак Пінэс прыстойны чалавек."

— Вой, дурненькі! Калі маеш у кішэні дзесяць тысяч даляраў, то патрэбна быць прыстойным чалавекам?

✡✡✡

Жабрак, убачыўшы, як лёкай нясе да карэты сынка мільянера Бродскага, уздыхае і бубніць сабе пад нос:

— Такі маленькі— і ўжо Бродскі!

✡✡✡

Фабрыкант Леа Розэнблюм высылае востры дакорлівы ліст свайму даўжніку:

"Хто абяцаў заплаціць да канца месяца? Пан! Хто не стрымаў слова? Пан! Хто самы апошні лайдак? Леа Розэнблюм."

